**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 21 (894) 25 траўня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





Фота Дзмітрый Шаршунс.

20 мая ў Глыбокім адбылося спатканне сем'яў, арганізатарам якога быў пробашч парафіі кс. Мікалай Ціхановіч. Акрамя глыбачан, якіх сабралася 12 сужэнстваў разам з дзецьмі, па запрашэнні святара далучыліся і сем'і з Мінска, Смаргоні і Гродна.



ISSN 2077-8023





**Увага!!!** Цяпер газету "Вольнае Глыбокае" на тэрыторыі Віцебскай вобласці праз паштовыя аддзяленні "Белпошты" можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г.

## Аршанскі раён

# Адукацыю чакаюць змены

■ Чэслаў Якубовіч.

**Ужо ў самы бліжэйшы час айчынную сістэму адукацыі ад ВНУ, ССНУ да вясковых школ чакаюць істотныя змены.**

Аб гэтым было афіцыйна заяўлена днямі падчас выязнога пасяджэння калегіі Мністэрства адукацыі Беларусі, якая адбылася ў Оршы. Аршанскі рэгіён для прыезду сюды вядучых спецыялістаў галіны быў выбраны не толькі таму, што на яго развіццё пільную ўвагу звяртае кіраўнік дзяржавы. На Аршаншчыне, як нідзе болей, зараз працуюць 116 розных устаноў адукацыі, каля 4 тысяч выкладчыкаў і вучацца больш 28 тысяч студэнтаў і школьнікаў. На тэрыторыі раёна дзейнічаюць яшчэ 9 прафтэхвучылішчаў і каледжаў, якія рыхтуюць спецыялістаў па масавых рабочых прафесіях. Выступаючы на пленарным пасяджэнні Міністр адукацыі Ігар Карпенка пацвердзіў, што апаратыўна пачалася ў спецыяльна створаных рабочых групах праца па аналізе вучэбных праграм, падручнікаў і дапаможнікаў. Вучоныя высвятляюць, ці дапамагаюць яны падрыхтоўцы адукаванай моладзі, каб як мага болей потым рыхтавалася спецыялістаў для інавацыйнага развіцця краіны, альбо ў іх занадта шмат тэорыі ва ўрон практыцы. Верагодна, ужо неўзабаве будуць перагледжаны аб'ёмы школьных праграм і, як было даручана главой дзяржавы, заняткі ў школах у новым навучальным годзе будуць пачынацца не раней 9 гадзін раініцы. На калегіі таксама адзначалася, што ў далейшым будуць скарэктыраваны лічбы колькасці набору студэнтаў, як на бюджэт, так і на платную форму навучання, павышана роля прадпрыемстваў у фарміраванні заказу на патрэбных ім спецыялістаў. Ад зладжанай працы ўстаноў адукацыі вельмі многае залежыць, а тэхнікумы і прафтэхвучылішчы ўвогуле могуць перадаць мясцовым органам улады.

## Пастаўскі раён

# Удар пад дых хлебаробам

■ Кастусь Александровіч

**Такіх зацяжных неспрыяльных умоў надвор'я для веснавой сяўбы, як сёлета, не памятаюць нават вясковыя старажылы.**

На Віцебшчыне з-за моцнай пераўвільготненасці глебы, снегападаў і частых замаразкаў у аптымальныя тэрміны адсеяўся толькі адзін раён.

На Пастаўшчыне заўсёды адной з першых завяршала гэту працу адна з самых моцных гаспадарак краю, ААТ "Навасёлкі-Лучай". Аднак сёлета тут да сярэдзіны мая з запланаваных 2200 гектараў зерневых змаглі з вялікімі намаганнямі апрацаваць толькі пятую частку палеткаў. З пачатку пасяўной не было ў гэтай мясцовасці ніводнага працоўнага дня, каб сучасная тэхніка працавала на поўную магутнасць. Прычым у навасёлкаўцаў яшчэ пры праслаўленым былым старшыні, Героі Сацпрацы Алегу Валадзько на палях працавалі лепшыя заходнія агрэгаты. Але ў гэтым годзе магутныя амерыканскія трактары "Джон Дзіры" правальваліся ў зямлю цэлымі коламі і іх прыходзілася выцягваць яшчэ больш моцнымі машынамі.У выніку адны вымушаныя прастоі, нерватропка, хоць сельгаспрадпрыемства вельмі добра было падрыхтавана да сяўбы. Як і ў іншых месцах, механізатары чакалі сонечных цёплых дзён, але яны прыйшлі з вялікім спазненнем. Спадзявацца цяпер на нейкую аддачу хлебнай нівы і нармальны ўраджай ужо не выпадае, бо і падсеяць пацярпелыя ўчасткі азімых з-за вымоін было складана. Яшчэ больш цяжкая сітуацыя склалася ў курапольскай зоне, бо там землі нізінныя і пацярпелі ад празмернай вільгаці яшчэ больш.

## Віцебскі раён

# Агонь успыхнуў нечакана

■ Станіслаў Раманчук.

**Рэдка які дзень абыходзіцца, каб на тэрыторыі вобласці не адбывалася надзвычайных здарэнняў, аварый і пажараў.**

Даволі рэгулярна ў такія зводкі патрапляе самы шчыльна заселены абласны цэнтр з прыгарадным Віцебскім раёнам. Аднак адно паведамленне аб пажары днём ў адным з гарадскіх магазінаў выклікала значны грамадскі інтарэс. У самым цэнтры горада па вуліцы Талстога паваліў дым з першага і цокальнага паверхаў дома, які ўваходзіць у комплекс забудоў канца XIX стагоддзя і з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю. Работніца фірменнага магазіна абутковага холдынга "Марко" пачула, як спрацавала ахоўная сігналізацыя і выклікала пажарных. На шчасце, нікога з пакупнікоў у той момант у краме не было, спецыялісты МНС аператыўна прыбылі на месца здарэння і эвакуіравалі траіх прадаўцоў. Па невядомай прычыне там загарэлася картонная тара для ўпакоўкі папулярных вырабаў холдынга. Цікава, што ў гэтым доме на другім паверсе пражывае і сам яго ўладальнік, адзін з самых паспяховых беларускіх бізнесменаў, сенатар парламента Мікалай Мартынаў. З узгараннем пажарныя справіліся хутка, але ім прыйшлося яшчэ эвакуіраваць дваіх жыльцоў дома. У самім памяшканні магазіна "Марко" спатрэбіцца касметычны рамонт закопчаных гандлёвых залаў, столі і сцен. У той самы дзень толькі ўжо ноччу загарэўся легкавы аўтамабіль на адной з вуліц горада, акрамя яго полымя пашкодзіла і дзве прыпаркаваныя суседнія іншамаркі.

## Аб самым надзённым

# АДРАДЗІЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ВЁСКІ БУДЗЕ ПРАБЛЕМАТЫЧНА, БО АДТУЛЬ ПАСЛЯ ПРЫМУСОВАЙ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ ДАЎНО СЫШЛІ САМЫЯ ТАЛКОВЫЯ ГАСПАДАРЫ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Справа ў тым, што Беларусь старэе, а наша глыбінка яшчэ і імкліва вымірае і гэта, на жаль, ужо агульнаеўрапейская тэндэнцыя. Раней за савецкім часам падчас кіравання Хрушчова з Брэжневым у нашых вёсках пасля вайны была зусім іншая абстаноўка, чым цяпер.**

Канец сёлетняй вясны зусім не парадаваў і ўстрывожыў многіх беларусаў. Нават старажылы не маглі прыпомніць, каб нават у сярэдзіне мая працягваліся такія зацяжныя халады са снегам і начнымі замаразкамі. Шмат дзе на моцна прамоклыя палі і людскія агароды тэхніцы не было як заехаць, нават у парніках было холадна. Дайшло да таго, што па стане на 10 мая ў Беларусі веснавую сяўбу правялі толькі на 74 % запланаваных плошчаў, а на Віцебшчыне з-за дажджоў і халоднай глебы аптымальныя тэрміны веснавых работ у полі сышлі. Стала вядома, што валютныя ўклады беларусаў скараціліся да мінімуму з канца 2013 года і многія сталі траціць свае ранейшыя зберажэнні, каб неяк падтрымаць усё больш падаючы ўзровень жыцця. Калі ў нас толькі гавораць аб задачы кроў з носу выйсці да канца снежня на зарплату тысячу рублёў, то беларускі пасол у Кітаі Кірыл Руды выступіў па тэлеканале "Беларусь-1" і многіх проста зусім ашарашыў. У бальшасці правінцый паднябеснай краіны заробкі кітайцаў ужо болей 700 долараў, а ў шэрагу іх рэгіёнаў працоўныя зарабляюць па 1000 і болей USD. Чвэрць стагоддзя назад мы былі нават крыху багацей далёкіх усходніх партнёраў. А вось цяпер апынуліся ў ролі яўна адстаючых. Адзінае, што парадавала ўпершыню на конкурсе "Еўрабачанне-2017" за 14 гадоў удзелу ў ім Беларусі прагучала песня на беларускай мове і гэта прынесла нашай краіне доўгачаканы поспех.

У сваю чаргу падчас урачыстых мерапрыемстваў да Дня Перамогі кіраўнік краіны выказаўся зноў аб набалелым. Сярод іншых тэм А. Лукашэнка пацвердзіў, што паўсюдна будуць прыводзіць у парадак глыбінку, асабліва яе ўскрайкі, былыя цэнтры многіх калгасаў і саўгасаў. Прэзідэнт дадаў, што дзяржава будзе рабіць многае, каб там нармальна жылі сем'і з дзецьмі і таму зробяць "все для того, чтобы эти деревеньки восстановить". Тым больш, па яго словах, краіна праграму "Школьны аўтобус" ужо выканала, застаецца на месцах палепшыць сетку прыгарадных дарог. Што і казаць, задума гэта добрая, але ажыццявіць яе будзе вельмі складана, на гэта спатрэбіцца не адна пяцігодка.

Справа ў тым, што Беларусь старэе, а наша глыбінка яшчэ і імкліва вымірае і гэта, на жаль, ужо агульнаеўрапейская тэндэнцыя. Раней за савецкім часам падчас кіравання Хрушчова з Брэжневым у нашых вёсках пасля вайны была зусім іншая абстаноўка, чым цяпер. У сельскіх школах вучылася па 200 і болей дзяцей, пенсіюаднаму чалавеку зараблялі па 4-5 яго ных землякоў. Цяпер аднаму ветэрану зарабляюць пенсію ў нас па 1,5-1,6 суайчынніка, а ў асобных раёнах - адзін чалавек. У пенсійным Фондзе ўзнік дэфіцыт сродкаў з-за малых адлічэнняў туды і каб выплочваць пенсіі, прыходзіцца ўжо браць сродкі з дзяржбюджэту.

Адрадзіць глыбінку складана яшчэ таму, што ў маленькіх вёсках дажываюць свой век пераважна адны пажылыя. Спецыялісты кажуць, што каб такія паселішчы ажылі, неабходна, каб там жылі людзі ва ўзросце не старэй 45 гадоў. А ці многа такіх людзей вы цяпер сустрэнеце там? Па сабе памятаю, як у дзяцінстве бацькі прасілі нас добра вучыцца ў школе, бо інакш не выйдзеш у людзі. І таму заставацца там цяжка жыць і няспынна шмат працаваць з вясковых дзяцей мала хто хацеў. Там з майго пакалення засталіся адзінкі, як правіла, самыя слабыя вучні, а многія з іх потым рознымі спосабамі пакінулі сельскую мясцовасць, перабраліся ў гарады. Такія працэсы ішлі даўно, з моманту правядзення бальшавікамі гвалтоўнай прымусовай калектывізацыі.

Менавіта КПСС і знішчыла нашу беларускую вёску, дзе да вайны было столькі хутароў і малых вёсачак. Рост насельніцтва ў глыбінцы даўно спыніўся, а растуць сталіца, абласныя цэнтры і перспектыўныя гарады. Назад,у вёску, мала хто з маладых і людзей сярэдняга пакалення паедзе, хіба толькі адзінкі. У нас велізарныя сродкі патрацілі на абуладкаванне больш тысячы аграгарадкоў па ўсёй краіне, а чакаемага эфекту практычна не дабіліся. Канешне, зараз, зусім ужо кінуць на волю лёсу гэту сферу не выпадае, пра жывучых там людзей трэба клапаціцца. Але ж нават у невялікім горадзе сацыяльная сфера лепшая, умовы для жыцця лепшыя, тыя ж фанары гараць ночу на гарадскіх вуліцах і падаецца гарачая вада, чаго многія вяскоўцы пазбаўлены.

А самае галоўнае, у нас не вырашана важнейшае зямельнае пытанне вяртання прыватнай уласнасці на зямлю. Без гэтага ўсе добрыя пачынанні не дадуць выніку. Роўна цэлае стагоддзе назад бальшавікі-ленінцы абяцалі сялянам зямлю, але затым народ подла падманулі. Зразумела, жывучых у беларускай глыбінцы нельга пакідаць без падтрымкі і клопату. А вось наша вёска ажыве тады, калі там з'явіцца сапраўдны чалавечы капітал, якімі былі нашы продкі, якіх называлі раней кулакамі, серадняками і рознымі іншымі "эксплуататарамі" працоўнага люду.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 25.05.17 | | | | Пятніца 26.05.17 | | | | Субота 27.05.17 | | | | Нядзеля 28.05.17 | | | | Пн.29.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +13 | +18 | +15 | +12 | +10 | +16 | +15 | +11 | +13 | +15 | +12 | +7 | +9 | +15 | +14 | +13 | +18 | +25 |
| Ціск | 743 | 745 | 744 | 743 | 743 | 745 | 745 | 745 | 746 | 750 | 751 | 751 | 752 | 753 | 752 | 750 | 747 | 746 | 743 |
| Вецер м/сек | 3 Пн | 3 Пн-З | 5 Пн-З | 3 З | 4 Пн-З | 5 Пн-З | 6 Пн-З | 4 Пн-З | 5 Пн-З | 4 Пн | 8 Пн-З | 4 Пн | 1 Пн | 2 Пд-У | 2 Пд-З | 4 Пд-З | 5 Пд-З | 6 Пд-З | 10 З |
| Вільготнасць | 85 | 68 | 50 | 58 | 85 | 84 | 58 | 51 | 74 | 57 | 36 | 29 | 69 | 48 | 43 | 58 | 87 | 71 | 41 |

## Дзень за днём

**У Беларусі зноў падаражэла паліва на 1 капейку. Еўрапейскі банк ЕБРР спрагназаваў працяг рэцэсіі ў Беларусі ў 2017 годзе на ўзроўні 0,5 %. На грамадскае абмеркаванне вынеслі праект дэкрэта аб абмежаванні курэння. А. Лукашэнка паабяцаў падтрымаць, асабліва на Віцебшчыне, развіццё невялікіх вёсак. Расія з 15 мая ўвяла пагранічны кантроль самалётаў і пасажыраў, якія прылятаюць з Беларусі. Канец вясны стаў незвычайна халодным. Упершыню на "Еўрабачанні" беларусы прадставілі песню на роднай мове і гэта прынесла ім поспех. Прэзідэнт падпісаў заяўку Беларусі для ўдзелу ў зімовай Алімпіядзе-2018.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** Новы прэзідэнт, 39-гадовы Э. Макрон паабяцаў нацыі глыбокія рэформы, яго поспех на выбарах стаў перамогай для ЕС і глыбокім расчараваннем для Крамля.

**КНДР**. Агенцтва ЦТАК заявіла, што амерыканскія і паўднёвакарэйскія агенты спрабуюць забіць лідара краіны Кім Чэн Ына, напружанне ў рэгіёне яшчэ болей узрастае.

**Турцыя.** Моцнае абурэнне ў краіне выклікала рашэнне прэзідэнта ЗША Д. Трампа паставіць атрадам сірыйскіх курдаў сучасную зброю, гэта прывядзе і да развалу Сірыі.

**Венесуэла.** У сутычках з паліцыях на акцыях за адстаўку некампетэнтнага прэзідэнта-папуліста М. Мадуры загінула за месяц 38 чалавек, было паранена каля тысячы.

**ЗША.** Пасля раптоўнага звальнення главы ФБР Д. Комі лідар дэмакратаў у Сенаце Чак Шумер запатрабаваў правядзення незалежнага расследвання сувязей Д. Трампа з Расіяй.

**Кіпр.** Большасць міністраў з 65 краін-акцыянераў банка ЕБРР адверглі патрабаванні Расіі адмяніць уведзеныя ў 2014 годзе заходнія санкцыі на выдачу РФ новых займаў.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка павіншаваў суайчыннікаў з канчатковым рашэннем Савета ЕС аб увядзенні з 11 чэрвеня бязвізавага рэжыму паездак для грамадзян краіны.

**Эстонія.** У краіне прайшлі трохтыднёвыя ваенныя вучэнні "Веснавы шторм-2017" з удзелам 9 тысяч ваенных па ўзаемадзеянні з войскамі дзяржаў-членаў НАТО.

**Літва.** Прэзідэнт Расіі У. Пуцін зноў не павіншаваў тры дзяржавы Прыбалтыкі з Днём Перамогі, адмовіўся ад пасланняў главам Грузіі і Украіны, але прывітаў іх грамадзян.

**Кітай.** Кітайскія кампаніі, як заявіў беларускі пасол К. Руды, гатовы перанесці сваю вытворчасць у Беларусь, бо заробкі ў іх (700-1000 $) большыя, чым у беларусаў.

**Расія**. Поўнай нечаканасцю для мэрыі Масквы стала масавае незадавальненне жыхароў сталіцы планамі зносу хрушчоўскіх пяціпавярховак, гэтым занепакоіўся і Крэмль.

**Германія.** Папулярны тут малады беларускі пісьменнік В. Марціновіч заявіў, што дзясяткі беларусаў ні за што кінуты ў турмы, Еўропа павінна звярнуць на гэта сваю ўвагу.

**Кітай.** Раніцай на паўночным захадзе краіны адбыўся землятрус сілай да 5,5 балаў, загінула 8, было паранена 20 чалавек і разбурана больш за 1,5 тысячы розных будынкаў.

**Індыя.** З касмічнага цэнтра ў штаце Андхра-Прадэш краіна паспяхова запусціла навейшы ўнікальны тэлекамунікацыйны спадарожнік на сваёй дапрацаванай ракеце GSLV.

**Расія.** Цэнтр стратэгічных распрацовак прапанаваў У. Пуціну павялічыць пенсійны ўзрост да 63 гадоў у жанчын і 65 – у мужчын, для сацыяльных пенсій павысіць стаж да 20 гадоў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Супрацоўніцтва з дынамічным і вялізным Кітаем нам, безумоўна, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, карысна, але мы туды можам прадаць толькі калій, прадукты.

**Гродна.** Адраджэнне беларускай вёскі, як папярэдзіў кандыдат навук М. Залескі, будзе немагчыма без вяртання прыватнай уласнасці на зямлю, на гэта спатрэбіцца 20-25 гадоў.

**Мінск.** А. Лукашэнка загадаў перагледзець графік работы беларускіх школ, каб заняткі ў іх пачыналіся не раней 9 гадзін раніцы, бо гэта адбіваецца на здароўі дзяцей.

**Гомель.** Абласны суд пацвердзіў факт расстрэлу 33-гадовага жыхара абласнога цэнтра С. Вострыкава па прыгавору суда за згвалтаванні і забойствы двух маладых калег па рабоце.

**Асіповічы.** Да 5 гадоў турмы пагражае 50-гадоваму экс-намесніку главы раёна па сацсферы А. Шаўлюгу, на падпітку "замініраваў" будынак КДБ і міліцыі і страціў працу.

**Мінск.** Наша эканоміка, як заявіў эканаміст С. Чалый, без інтэграцыі ў еўрапейскую стане бензакалонкай на граніцы з Расіяй, без яе ачысткі ад пустазелля росту дабрабыту не будзе.

**Ліда.** Жыхары пасёлка Бярозаўка выйшлі на мітынг пратэсту спраць пераводу мясцовай лазні на графік працы толькі адзін дзень на тыдзень і за адмену высокіх цэн на паслугі.

**Мінск.** З цэха ў рэанімацыю забралі дзвюх швачак "Мілавіцы", на наступны дзень дрэнна сябе адчула яшчэ адна жанчына, на экспертызу адправілі іспанскую тканіну для шыцця.

**Мінск.** Хоць у нас хваляцца пра моц беларускай арміі, яле як пацвердзіў палітолаг А. Класкоўскі, ваенны бюджэт скукожыўся да сярэдзіны 90-х гадоў, грошай на яе не хапае.

**Брэст.** На заводзе бытавой хіміі раніцай адбылася ўцечка пароў азотнай і артафосфарнай кіслаты, пацярпеў слесар цэха, яшчэ 20 чалавек прыйшлося тэрмінова эвакуіраваць.

**Мінск.** Пасля цяжкай працяглай хваробы ва ўзросце 97 гадоў памёр старэйшы сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, паэт-франтавік Мікола Аўрамчык.

Калінкавічы. Пад раніцу на тэрыторыі раёна падчас тушэння пажару грузавога аўтамабіля на дарозе ля вёскі Сітня сустрэчная машына збіла насмерць супрацоўніка МНС.

**Хоцімск.** У маланаселеным "самагонным краі" на ўлік да раённага нарколага стала ўжо 376 чалавек, каэфіцыент смяротнасці 20,2 значна перавысіў яго ўровень па вобласці – 13,5

**Мінск.** Кампазітар Э. Ханок пацвердзіў, што спявачка Я. Паплаўская не будзе спяваць яго песні, а вось з А. Ярмоленка парушэнні ягоных аўтарскіх правоў разгледзіць суд.

**Будслаў.** З дапамогай мінскага аэраклуба ДТСА-АФ пачаліся пробныя палёты на верталёце для пілігрымаў з аэрадрома Баравая ў касцёл памаліцца ля абраза заступніцы Беларусі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Старшыня аблвыканкама М. Шарстнёў пацвердзіў, што ў вобласці плануецца пабудаваць 10 сучасных ферм на 2 тысячы дойных кароў кожная.

**Орша.** Урад Беларусі пасля крытыкі А. Лукашэнкі выдзеліў 36 мільёнаў долараў на бізнес-план па вырабатванні мясцовага інструментальнага завода, каб ён не абанкроціўся.

**Паставы.** Адразу ў шасці рэгіёнах вобласці памяняліся кіраўнікі, мясцовы райвыканкам узначаліў начальнік райсельгасхарча Сяргей Чэпік, у 1987-2000 г. ім кіраваў яго бацька.

**Талачын.** Прэм'ер-міністр Беларусі А. Кабякоў наведаў у гарпасёлку Коханава ААТ "Амкадор-КЭЗ" і пазнаёміўся з новай тэхнікай завода – экскаватарамі і касілкамі.

**Ушачы.** Следчы камітэт пачаў праверку абставін па факце смерці ў сваім доме ў вёсцы Казімірава 12-гадовай дзяўчынкі, па справе атраўлення чадным газам правялі экспертызы.

**Глыбокае.** У мясцовым дзяржпрафліцэі прайшло выязное пасяджэнне абласной метадычнай секцыі выкладчыкаў, якія рыхтуюць кадры для АПК Прыдзвіння.

**Круляўшчызна.** Пасля чатырох дзён падрыхтоўкі сапёры атрада "Віцязь" кіруемым выбухам узарвалі воданапорную вежу, тут будзе станцыя абезжалезвання вады.

**Бешанковічы.** З пачатку стагоддзя ў адным з самых бедных раёнаў краіны жыхароў стала меней на 8 тысяч чалавек, тут закрылі 6 школ, яшчэ 10 установ адукацыі рэарганізавалі.

**Сянно.** У рэгіёне колькасць пенсіянераў дасягнула 38 % ад усяго насельніцтва, як і ў Шаркаўшчынскім, Ушацкім раёнах, дэфіцыт сродкаў ФСАН па вобласці вырас да 14 %.

**Віцебск.** Суд пакараў 1 годам папраўчых работ 43-гадовага жыхара абласнога цэнтра, які на веласіпедзе збіў летась восенню вечарам 8-гадовую дзяўчынку ў пасёлку Тулава.

**Браслаў.** Пры падтрымцы пасольства Польшчы ў Беларусі ў райцэнтры на возеры Дрывяты адкрыўся і пачаў працаваць яхт-клуб, ён тут дзейнічаў і да вайны.

**Верхнядзвінск.** З пачатку года ў раёне ў 1-м квартале на вытворчасці ў выніку няшчасных выпадкаў загінулі 2 работнікі, у цэлым па вобласці – 6, яшчэ 19 былі цяжка паранены.

**Дубdroўна.** Каля 6 гадзін вечара пачаўся пажар у жылым доме ў вёсцы Коршыкава, які забраў жыццё 50-гадовага гаспадара, на Полаччыне землякі выратавалі свайго суседа.

**Паставы.** Супраць двух 17-гадовых пастаўчан, навучэнца каледжа і рабочага завода "Беліт" распачалі крымінальную справу за спробу ўгона іншамаркі ў жыхара Навасёлак.

**Віцебск.** Днём трагічна загінуў 32-гадовы мужчына, інвалід па слыху, які патрапіў пад невялікі аўтаномны лакаматыў (матавоз) на чыгуначным перагоне Прудок-Віцебск.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Як змянілася Украіна за апошнія гады?

**Украіна апошнім часам ператварылася ў нас у нейкую страшылку, якой пужаюць беларусаў: «Вы што, хочаце, каб было як ва Украіне?» Як мяняецца гэта краіна і ці бачныя гэтыя змены беларусам, я спытаў журналістаў з Магілёўшчыны і Віцебшчыны падчас знаходжання на 3-м фестывалі тэлевізійных і радыёпраграмаў «Кабзар яднае Украіну», які праходзіў 19–22 траўня на Чаркашчыне.**

■ **Зміцер Лупач**



**Алена Сцяпанава, Віцебск:**

Мяне уразіла тое, як гэтыя людзі ўмеюць заўважаць каштоўнасці ў тым, дзе беларусы не заўважаюць. Вось нам тут распавядаюць пра Тараса Шаўчэнку як героя нацыі, а ў нас, між іншым, мог бы быць свой такі герой – Паўлюк Багрым. Гэта чалавек, які мог стаць беларускім Шаўчэнкам. Ён быў паэтам, ад яго застаўся толькі адзін верш і жырандоля ў касцёле. Вось трэба, каб беларусы ўсяму гэтаму надавалі ўвагу. Мы сёння ехалі з экскурсіяй па Залатаношы і слухалі: "Вось тут было гэта, і гэта месца мы шануем, тут вось гэта, і гэта месца мы таксама шануем". Украінцы ўмеюць распавядаць пра сваю радзіму, а беларусы бянтэжацца сваёй радзімы. А мне здаецца, што ў кожным мястэчку ёсць тое, што варта нашай памяці і ўвагі.

**Таццяна Смоткіна, Глыбокае:**



– Што мне падабаецца ў апошнія часы ва Украіне, гэта тое, што тут лёгка працаваць журналістам. Тут няма ніякай цэнзуры. Я размаўляла з некалькімі ўкраінскімі журналістамі пра цэнзуру і самацэнзуру. Яны мне адказалі, што ва ўмовах вайны нейкая самацэнзура ёсць, але самой цэнзуры няма. Гэта сведчыць пра тое, што краіна ідзе ў правільным напрамку, у напрамку Еўропы. Хаця гэты шлях і складаны. Шмат на ім розных перашкод, але людзі працуюць, каб іх пераадолець. У краіне ідуць рэформы, хоць часам і складана ўсё гэта адбываецца. Таму, думаю, усё ва ўкраінцаў атрымаецца, і нам, беларусам, ёсць чаму ў іх павучыцца, асабліва, што датычыць працы сродкаў масавай інфармацыі.



**Таццяна Лейбуціна, Крычаў:**

– Украіна значна змянілася за апошнія тры гады. Праўда, у эканамічным плане пакуль гэтых змен не заўважна. Але затое ва ўкраінцаў стала больш свабоды, больш дэмакратыі. Гэта відаць па адносінах людзей, якія адкрытыя для гасцей, больш усміхаюцца. Украінцы адстаялі на Майдане свой еўрапейскі выбар і зараз рухаюцца ў правільным накірунку. У крамах вялікі выбар тавараў, шмат ёсць таго, чаго ў нас няма. Думаю, і дабрабыт людзей у хуткім часе палепшыцца. Ва Украіны ёсць светлая будучыня, чаго, на жаль, не скажаш пра нашу краіну.

**Барыс Вырвіч, Магілёў:**



– Можа і ёсць якія змены, але пакуль іх не бачна. Тут трэба шмат размаўляць з шараговымі грамадзянамі, каб зрабіць нейкія высновы. З таго, што мы паспелі пабачыць, вынікае, што эканамічнае становішча ў іх часам горшае, як у нас. Вось былі мы зараз на «Маккофе», прадпрыемстве, што лічыцца паспяховым. І яны як дасягненне кажуць пра тое, што яны своечасова плацяць людзям заробкі. Але ж самі заробкі невялікія – 5-6 тысяч грыўняў (каля 200 даляраў). Гэта амаль што беларуская мінімалка. Так, у іх прадукты таннейшыя, але камуналка значна вышэйшая. Таму для простых людзей гэтых зменаў яшчэ не заўважна. Праўда, у іх узрасло адчуванне свабоды, асабліва гэта заўважна ў сферы свабоды слова, але для простых грамадзян тут яшчэ працы вельмі шмат, каб забяспечыць годны ўзровень жыцця.

**Валер Каранкевіч, Хоцімск:**



– Я думаю, што краіна мяняецца, праўда, не так хутка, як таго б хацелася. Але гісторыю падганяць нельга, усё павінна ісці сваёй хадой. Самае галоўнае, што Украіна ўпэўнена трымае курс на незалежнасць, сваю індэнтычнасць, сваё месца ў сусветнай супольнасці. Але безумоўна тое, што краіна ідзе ў правільным кірунку, чаго не скажаш пра нас. Мы пакуль мітусімся на месцы, не ведаючы, якую мадэль развіцця выбраць. У іх шмат маладых людзей у кіраўніцтве, увогуле стаўка зроблена на моладзь, на новыя ідэі, на новыя праекты, якія ўжо рабіліся ў іншых краінах і паказалі там добры вынік. Таму Украіна на правільным шляху, і нас некалі гэта чакае. А пакуль кадравая палітыка ў Беларусі вельмі дрэнная, далёка не заўсёды ў нашым кіраўніцтве знаходзяцца кампетэнтныя і сумленныя людзі, якія б змаглі вывесці краіну з тупіка, у якім мы, на жаль, зараз знаходзімся.

# Арганізатары Дня беларускага пісьменства ў Полацку чакаюць шмат замежных гасцей

**На Дні беларускага пісьменства ў Полацку чакаецца шмат замежных гасцей. Гэта адзначыў намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Васіль Жарко, адказваючы на пытанне карэспандэнта БелТА пасля пасяджэння нацыянальнага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства ў Полацку.**

"Гэта свята павінна стаць знакавай падзеяй. Мы адзначаем 500-годдзе беларускага кнігадрукавання і 1155-ы дзень нараджэння Полацка. Вялікая ўвага будзе ўдзелена тэматыцы беларускай дзяржаўнасці. Да таго ж Полацк трэці раз будзе прымаць гэта свята, а значыць, павінен узнімацца на новы ўзровень. Рух Полацка наперад адчуваецца на аб'ектах, якія мы сёння наведалі. Старшыня райвыканкама, яго намеснікі, кіраўнікі службаў далажылі аб праводзімай рабоце. Мы зацвердзілі канцэпцыю, распрацавана сімволіка свята. Горад заслугоўвае асаблівай увагі, і сюды, вядома, прыедзе шмат замежных гасцей, у тым ліку дыпламаты і пісьменнікі з розных краін. Упэўнены, свята будзе праведзена на самым высокім узроўні", - сказаў Васіль Жарко. Удзельнікі аргкамітэта азнаёміліся з падрыхтоўкай асноўных аб'ектаў да свята. Пабывалі ў Мастацкай галерэі, Полацкім дзяржуніверсітэце, Сафійскім саборы, Музеі беларускага кнігадрукавання. На пленарным пасяджэнні разгледжаны ключавыя моманты падрыхтоўкі Дня пісьменства.

*БелТА.*

Увага – дзеці!

# Транспартныя сродкі мусяць рухацца з уключаным блізкім святлом фар

**З 25 траўня па 5 чэрвеня 2017 года на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь будзе праводзіцца адмысловае комплекснае мерапрыемства "Увага – дзеці!".**

Мэтай дадзенага мерапрыемства з'яўляецца недапушчэнне дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму. У сувязі з гэтым супрацоўнікамі органаў унутраных спраў будзе праведзены шэраг прафілактычных мерапрыемстваў накіраваных на забеспячэнне дарожнай бяспекі, у першую чаргу гэтыя мерапрыемствы будуць накіраваны на выяўленне парушэнняў правіл знаходжання дзяцей у межах праезнай часткі, парушэнні правіл перавозкі дзяцей аўтамабільным транспартам.




Падчас правядзення дадзенага адмысловага комплексу мерапрыемстваў кіроўцам механічных транспартных сродкаў неабходна падчас кіравання транспартным сродкам рухацца з уключаным блізкім святлом фар ці дзённымі хадавымі агнямі (пры іх наяўнасці) у светлы час сутак. У выпадку невыканання дадзенага патрабавання да кіроўцаў будуць ужывацца меры адміністрацыйнага ўздзеяння за парушэнне пункта 166.9 Правіл дарожнага руху, якія кваліфікуюцца па частцы 3 артыкула 18.14 Ко АП Рэспублікі Беларусь "Парушэнне асобай, якая кіруе транспартным сродкам, правілаў руху па аўтамагістралі, карыстання вонкавымі светлавымі прыборамі, буксіроўкі транспартных сродкаў, а роўна парушэнняў правіл ужывання аварыйнай сігналізацыі і знака аварыйнага прыпынку", завошта прадугледжана пакаранне ў выглядзе папярэджання ці накладанні штрафу ў памеры да дзвюх базавых велічынь.

*А.А. Майсяёнак, 1-ы намеснік начальніка Глыбоцкага РАУС .*

# Мітрапаліт Кандрусевіч служыць у літургічным адзенні з беларускім арнаментам

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, пачаў выкарыстоўваць літургічнае адзенне з нацыянальнай вышыўкай.**

На рукавах альбы Тадэвуша Кандрусевіча – доўгай белай кашулі, абавязковай для святарскага адзення падчас службы – з'явіўся беларускі арнамент чырвонага колеру.

Упершыню гэта адбылося 13 мая ў Вілейцы – падчас святкавання 100-годдзя аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме.

«Выкарыстанне традыцыйнай вышыўкі ў літургічнай вопратцы святароў пачалося ў той жа час, калі гэты трэнд (цікавасць да самабытнага і нацыянальнага) з'явіўся і ў грамадстве. Святары пачалі звяртацца да майстроў, якія шыюць літургічнае адзенне, з адпаведнымі замовамі. Найчасцей гэта майстэрня пры парафіі айцоўкапуцынаў у Маладзечне.

Але за гэтым стаіць не даніна модзе, але агульная скіраванасць касцёла выкарыстоўваць у кожнай культуры тое, што магчыма злучыць з хрысціянскім веравучэннем. Калі касцёл дзейнічае ў пэўным тэрытарыяльным, нацыянальным і культурным асяродку, то ён стараецца перадаць Хрысціянскую Навіну праз выкарыстанне нацыянальных асаблівасцей і культурных набыткаў гэтага народа, калі яны не пярэчаць хрысціянскаму духу.

Вышыўка, хоць некаторыя і схільныя бачыць у ёй праявы паганства, альбо язычніцтва, – гэта нацыянальна-культурны сімвал. Сімвалы таксама змяняюць свой змест і значэнне. У гэтым сімвалы можна пабачыць і элементы хрысціянства. Гэта мы называем інкультурацыяй: калі Евангельская Вестка перадаецца ў пэўным культурным асяродку», — распавёў Свабодзе кіраўнік інфармацыйнай службы пры Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў, святар Кірыл Бардонаў.

Як паведамілі ў мітрапаліцкай курыі, тое, што арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч выкарыстоўвае як літургічнае адзенне вышыванку, сведчыць пра ягоную прыхільнасць да нацыянальнай і культурнай традыцыі беларускага народа.

*Галіна Абакунчык.*

# Названы самыя пітушчыя краіны. Беларусь – на 2-м месцы ў свеце

**Жыхары Літвы з'яўляюцца сусветнымі лідарамі па спажыванні алкаголю, сведчаць дадзеныя мінулага года, якія ў аўторак у Вільні агучыў прадстаўнік Сусветнай арганізацыі здароўя (СААЗ) Гаўдзі Галеа, піша Defli.lt**

У Літве ў 2016 годзе адзін жыхар у сярэднім спажываў 16 літраў алкаголю. «Гэта, па найноўшых падліках, робіць яе (Літву) найбуйнейшым п'яніцам у Еўропе, а таксама самай пітушчай краінай у свеце», — заявіў Галеа.

На другім месцы размясцілася Беларусь, дзе на кожнага жыхара краіны прыпадае каля 15 літраў алкаголю ў год.

Трэці радок займае Латвія (у сярэднім каля 13 літраў на кожнага жыхара краіны).

Расія разам з Польшчай размясціліся на чацвёртым радку з паказчыкам крыху больш за 12 літраў на кожнага жыхара.

Лепш за ўсё, па дадзеных СААЗ, сітуацыя з рашэннем праблем, звязаных з ужываннем алкаголю, складваецца ў Заходняй Еўропе

*Паводле nn.by*

# Глыбоцкіх журналістаў аштрафавалі за відэасюжэт пра дом без капітальнага рамонту

**Тацццяну Смоткіну і Змітра Лупача суд прызнаў вінаватымі ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ.**

Незалежных журналістаў судзілі за сюжэт, паказаны на спадарожнікавым тэлеканале «Белсат», дзе апавядалася пра дом № 142 па вуліцы Леніна ў Глыбокім.

Суддзя Людміла Вашчанка пастанавіла пакараць Тацццяну Смоткіну штрафам памерам 25 базавых (575 рублёў), а Змітра Лупача — на 30 базавых (690 рублёў).

Справу супраць журналістаў ініцыяваў мясцовы аддзел КДБ. Менавіта адтуль далі распараджэнне разабрацца, якім чынам інфармацыя пра пяціпавярховік, у якім 40 гадоў не было капрамонту, трапіла на тэлеканал «Белсат».

На Змітра Лупача ў міліцыі склалі ажно два пратаколы. Паводле міліцыянтаў, ён парушыў заканадаўства двойчы, бо жыхары дома № 142 засведчылі, што бачылі яго ў двары два разы. Першы раз аднаго, а другі — разам з Тацццянай Смоткінай.


Зміцер Лупач і Тацццяна Смоткіна

Тацццяна Смоткіна — жыхарка дома № 142, у якім не было капітальнага рамонту ад моманту пабудовы. І яна, і яе суседзі насамрэч абураныя сітуацыяй, калі грошы на рамонт яны рэгулярна пералічвалі, а службы ЖКГ цвердзяць, што няма сродкаў. Незалежная журналістка Тацццяна Смоткіна падкрэслівала ў судзе, што не мае дачынення да «Белсату». Суддзю яе словы не пераканалі.

Зміцер Лупач наогул адмовіўся даваць паказанні падчас працэсу, бо быў упэўнены, што гэта не паўплывае на пастанову.

Абое журналістаў ужо маюць пакаранні за прафесійную дзейнасць, іх прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці ў 2015 годзе. Тады Глыбоцкі суд пакараў Тацццяну штрафам у 25 базавых за матэрыял «Дарогі ў Глыбокім стануць пазітыўнымі», размешчаны на сайце Беларускага Радыё Рацыя (Польшча).

Зміцер Лупач быў аштрафаваны на такую ж суму за артыкул «Знайшліся сваякі памежніка, які загінуў на Глыбоччыне 17 верасня 1939 года», размешчаны на сайце «Еўрарадыё». Журналістаў прызналі вінаватымі ў парушэнні заканадаўства аб СМІ за супрацоўніцтва з замежнымі сродкамі масавай інфармацыі без акрэдытацыі. Абскардзіць прысуд Глыбоцкага райсуда журналістам не ўдалося.

***Паводле Радыё «Свабода».***

21 траўня 2017 года – Міжнародны дзень памяці людзей, якія памерлі ад СНІДу

# У Глыбоцкім раёне было зарэгістравана 8 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі

■ Л.В.Козел,
*заг. аддзелам эпідэміялогіі Глыбоцкага РЦГЭ*

**Штогод, з 1983 года, у трэцюю нядзелю траўня ўвесь свет адзначае Міжнародны дзень памяці людзей, памерлых ад СНІДу. Міжнародны дзень памяці памерлых ад СНІДу – гэта знак падтрымкі людзей, якія жывуць з вірусам імунадэфіцыту чалавека (ВІЧ), знак памяці аб пацярпелых ад наступстваў ВІЧ-інфекцыі, а таксама заклік да дзеяння ў падвышэнні ўзроўню інфармаванасці насельніцтва.**

У міжнароднай назве дня памяці няма слова "ахвяра". Але так было не заўсёды. Спачатку, калі ў амерыканскім Сан-Францыска ўпершыню адзначылі гэты дзень, ён быў пазначаны як Сусветны дзень памяці ахвяраў СНІДу. Гэта вызначэнне, як і фраза "СНІД – чума XX/XXI стагоддзя" засталося спадчынай пачатку эпідэміі СНІДу, калі людзі не ведалі шляхоў перадачы ВІЧ-інфекцыі, а хвароба лічылася фатальным прысудам. Сёння мы ведаем, што дзякуючы з'яўленню магчымасцяў антырэтравіруснай тэрапіі, з ВІЧ можна захаваць якасць жыцця пры ўмове выканання рэкамендацый урачоў і правілаў бяспечных паводзін. У сувязі з гэтым сёння гучыць заклік да тэставання і саматэставання на ВІЧ – важна разумець, што, нягледзячы на тое, што чалавек не з'яўляецца прадстаўніком агульнавядомых груп высокай рызыкі, ён па тых ці іншых чынніках можа быць інфікаваны ВІЧ і доўгі час нават не здагадвацца пра гэта. Своечасовае выяўленне віруса дае магчымасць змагацца за якасць жыцця кожнага асобна ўзятага чалавека.

У дзень памяці людзі прышпільваюць да адзежы чырвоную стужачку, якую ў 1991 годзе прыдумаў мастак Франк Мур, як знак скрухі і памяці аб мільёнах тых, якія сышлі, як знак салідарнасці з тымі, хто мае ВІЧ-дадатны статус, як знак разумення таго, што СНІД не мае межаў, нацыянальнасцей, полу і ўзросту.

Паводле статысткі Сусветнай асацыяцыі аховы здароўя, на планеце жыве больш за 42 мільёны чалавек, інфікаваных вірусам імунадэфіцыту чалавека, і кожны дзень гэта лічба павялічваецца яшчэ на 14-15 тысяч. Большасць ВІЧ-пазітыўных – гэта маладыя людзі ва ўзросце да 30 гадоў. За апошнія 25 гадоў ад СНІДу памерла каля 25 мільёнаў чалавек.

Па дадзеных афіцыйнай статыстыкі ў Рэспубліцы Беларусь на 1 траўня 2017 года зарэгістравана 23 037 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ – 17 918, у Віцебскай вобласці – 1 234 выпадкі, колькасць людзей, што жывуць з ВІЧ – 976. **У Глыбоцкім раёне з 1987г. па цяперашні час зарэгістравана 8 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, па стане на 01.05.2017 – адзін ВІЧ-пазітыўны памёр.** У Беларусі за ўвесь перыяд назірання (з 1987 года) ад хвароб, звязаных з ВІЧ/СНІДам памерла 5079 чалавек, у т.л. у стадыі СНІДу – 2889 чалавек. Штогод у краіне выяўляецца больш за 1,5 тысяч новых выпадкаў. У апошнія гады пераважае палавы шлях перадачы ВІЧ – больш за 70% выпадкаў; у структуры захварэлых з кожных 10 чалавек – 7 мужчын.




У 2017 годзе дэвізам дня памяці стаў заклік "Спынім СНІД разам", які прапануе далучыцца да масавага руху па ўсім свеце і спыніць эпідэмію ВІЧ-інфекцыі. Кампанія супраць СНІДу заклікае да садзейнічання ва ўдзеле ў гэтым руху, скарачэнню стыгмы ў стаўленні людзей, якія жывуць з ВІЧ, забеспячэнню доступу да прафілактычных і інфармацыйных рэсурсаў.

Памятайце – ВІЧ-інфекцыя перадаецца праз кроў, сперму, вагінальны сакрэт, грудное малако. Для таго, каб адбылася перадача віруса, адна з гэтых вадкасцяў чалавека, які жыве з ВІЧ павінна патрапіць у крывацёк ці на слізістую іншага чалавека.

Прадухіліць заражэнне ВІЧ вельмі проста – дастаткова папярэдзіць трапленне ў ваш арганізм біялагічных вадкасцяў іншага чалавека. Гэта значыць:

– Карыстацца прэзерватывам пры палавым кантакце.

– Выконваць асабістую гігіену – выкарыстоўваць індывідуальныя прылады для галення, манікюру, педыкюру, гігіенічных працэдур.

– Пры правядзенні медыцынскіх маніпуляцый, звязаных з парушэннем цэласнасці скуры і слізістых выкарыстоўваць толькі аднаразовыя прылады.

Кажучы аб прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі сярод здаровых, ні ў якім разе нельга забываць пра тых, хто жыве з ВІЧ. Людзі, якія жывуць з ВІЧ, як і ўсе маюць права на паўнавартаснае жыццё: кахаць і быць каханымі, мець працу і зносіны з калегамі, права на медыцынскае абслугоўванне і годнае стаўленне да сябе.

# Смяротны выпадак пры нарыхтоўцы дроў

■ А. В. Сіўко,
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

**Нягледзячы на працу, якая праводзіцца Энерганаглядам па прафілактыцы электратраўматызму, маюць месца выпадкі парушэння Правіл аховы электрычных сетак пры вытворчасці рознага роду работ у ахоўных зонах электрычных сетак.**

05 траўня 2017 года каля 14 гадзін паступіў званок дыспетчару РДС Кобрынскага РЭС з УЗ "Хуткая медыцынская дапамога" г. Кобрына аб атрыманні электрычнай траўмы жыхаром н. п. Акцябр грамадзянінам В. Для высвятлення акалічнасцяў да месца здарэння была накіравана брыгада ОВБ Кобрынскага РЭС.

Пры аглядзе месца здарэння было ўсталявана, што пацярпелы выконваў работы па спілоўцы дрэва. Дрэва – асіна, даўжынёй 14 метраў, расло ў лесапаласе ўздоўж прасёлкавай дарогі на адлегласці 7 метраў ад крайняга провада ВЛ-220 кВ на землях сельскагаспадарчага прызначэння і не з'яўлялася пагрозлівым. Габарыт падвескі провада адпавядае патрабаванням ПУЭ (на дадзеным участку 9-10 метраў ад зямлі). Са слоў жонкі пацярпелага, пры валцы дрэва для ўласных патрэб пры дапамозе пілы Still ён дапусціў падзенне дрэва на крайні провад ВЛ-220 кв, у выніку чаго патрапіў пад уздзеянне электрычнага току. Брыгада хуткай медыцынскай дапамогі, якая прыбыла на месца здарэння, канстатавала смерць пацярпелага. Акалічнасці і чыннікі няшчаснага выпадку расследуюцца органамі ўнутраных спраў Кобрынскага раёна.

Энерганагляд нагадвае, што ахоўныя зоны электрычных сетак усталёўваюцца: уздоўж ВЛ электраперадачы ў выглядзе зямельнага ўчастку і паветранай прасторы, абмежаванага вертыкальнымі плоскасцямі, якія адстаяць па абодва бакі лініі ад крайніх правадоў пры неадхінутым іх становішчы на адлегласці: да 20кВ –10 м, 35кВ – 15м, 110кВ – 20м, 220кВ – 25м, 330кВ – 30м. Вытворчасць прац у ахоўных зонах паветраных ліній электраперадачы праводзіцца з папярэднім апавяшчэннем прадпрыемстваў (арганізацый), у вядзенні якіх знаходзяцца гэтыя лініі.

# "Разам супраць нелегальнага алкаголю!"

■ А.І.Гігола,
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

**Барацьба з п'янствам і алкагалізмам, нелегальным зваротам спірту, спіртазмяшчальнай і алкагольнай прадукцыяй з'яўляецца адной з прыярытэтных задач органаў унутраных спраў, паколькі гэтыя з'явы ляжаць у карані здзяйсненні бытавых злачынстваў, з'яўляюцца рэальнай пагрозай жыццю і здароўю нашых грамадзян, стрымліваюць культурнае развіццё грамадства.**



Практычна кожнае трэцяе злачынства ў вобласці здзейснена асобамі, якія знаходзіліся ў п'яным выглядзе. Амаль палова выпадкаў ужывання алкаголю скончваецца сямейнымі скандаламі. Усё часцей згубны запал губіць жанчын і падлеткаў. Параўнальна нядаўна на сто мужчын-алкаголікаў даводзілася адна жанчынаалкагалічка, сёння гэтыя суадносіны 10:4.

Шкода алкаголю на арганізм чалавека можа прымаць уражлівыя маштабы. Пітушчы чалавек ставіць пад удар фізічнае і псіхічнае здароўе. Пакутуюць унутраныя органы, разладжваецца работа найважнейшых сістэм, якая кіруе чалавечым целам, адбываецца дэградацыя асобы, што абумоўлена ўздзеяннем на нервовую сістэму чалавека. Уздзеянне алкаголю на арганізм закранае: печань, галаўны мозг, нервовую сістэму і псіхіку, сардэчна - сасудзістую сістэму, ныркі, стрававальную сістэму, імунную сістэму і іншыя органы.

Варта адзначыць, што атручванне сурагатамі алкаголю займае лідыруючую пазіцыю ў статыстыцы ўсіх інтаксікацый. Атручванне сурагатамі алкаголю, які не ўтрымоўвае этанол, развіваецца пасля прыёму метанолу, а таксама тармазной вадкасці і антыабледзяльнікаў на аснове этыленгліколю. Метылавы спірт утрымоўваецца ў вадкасці для ачысткі шкла аўтамабіля і растваральніках. Асаблівая небяспека метанолу звязана з тым, што па паху і смаку ён неадрозны ад этылавага спірту, з-за чаго і адбываюцца выпадкі яго ўжывання ўнутр. Так у 2017 годзе ў Віцебскай вобласці адбылося 5 атручванняў са смяротным зыходам. **Рэзанансное здарэнне зарэгістравана ў г. Глыбокае,** дзе мужчына і жанчына пасля распівання спіртазмяшчальнай вадкасці не прыходзячы ў свядомасць, памерлі. Падчас праверкі ўсталявана, што дадзеныя грамадзяне ўжывалі шклоамывальнік.

Супрацоўнікамі органаў унутраных спраў увесь час праводзіцца комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на спыненне і канфіскацыю з нелегальнага звароту алкагольнай і спіртазмяшчальнай прадукцыі.

Нагадваем, што ў выпадку выяўлення фактаў незаконнай рэалізацыі грамадзянамі алкагольных напояў заўсёды можна звярнуцца на тэлефонную лінію УУС Віцебскага аблвыканкама па процідзеянні незаконнаму гандлю спіртазмяшчальнай прадукцыяй па тэлефоне ГТС 8 (0212) 60-84-72 ці ў Глыбоцкі РАУСпа тэлефонах 2-27-02, ці 102. Ананімнасць гарантуецца.

